# ULTIMATE X-MEN®

ISSUE 26

ВЯРТАННЕ КАРАЛЯ: ПРАЛОГ




Сучасныя Людзі-Ікс
№26 (2001)
пераклад і афармленне: Козыраў Сяргей

MILLAR
BEN LAI
RAY LAI

MARVEL®




# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(НУМАР 1. MARVEL, 2015)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго няздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.







Charles Xavier — Professor X
Scott Summers — Cyclops
Jean Grey — Marvel Girl
Ororo Munroe — Storm
Logan — Wolverine
Kitty Pryde
Hank McCoy — Beast
Peter Rasputin — Colossus

# PREVIOUSLY IN ULTIMATE X-MEN:

Расамаха, Цыклоп, Марвел, Шторм, Звер, Калос і Чалавек-Лёд. Яны - Людзі-ікс, мутанты, аб'яднаныя прафесарам Чарльзам Ксаўе, які навучыў іх кіраваць сваімі неверагоднымі здольнасцямі.

Пад час нападзення на Вашынгтон Магнета - лідар тэрарыстычнай групіроўкі «Братэрства мутантаў» - быў знішчаны прафесарам Ксаўе. Ва ўсякім разе, усе так лічылі. Але на самой справе Ксаўе захаваў Магнета жыццё. Прафесар Ікс заблакіраваў яго памяць, і некаторы час Магнета жыў як звычайны чалавек, не здагадваючыся аб тым, хто ён на самой справе.

З-за памылкі аднаго з вучняў Ксаўе - Звера - мутанты Братэрства даведваюцца аб тым, што іх былы лідар жывы. Яны адшукваюць Эрыка Леншэра і з дапамогай тэлепатыі вяртаюць яму памяць. Магнета зноў узначальвае «Братэрства мутантаў». Ён збіраецца пачаць новую вайну супраць чалавецтва і Людзей-ікс...



Stan Lee presents:

# ULTIMATE X-MEN

Mark Millar story art Ben & Ray Lai

Dave Stewart colors
Chris Eliopoulos letters
C.B. Cebulski associate editor
Brian Smith associate editor
Ralph Macchio editor
Joe Quesada editor in chief
Bill Jemas president & inspiration


ШАТЛАНДЫЯ, 8 ГАДОЎ НАЗАД:
Ну?


Што «ну»?


Што яна сказала наконт таго, што ты ўходзіш? Як Мойра ўспрыняла гэтую навіну?


Мойра?




Калі шчыра, мы нават не размаўлялі аб гэтым, Эрык.
Мы даўно ўжо з ёй не размаўляем. І ў астатні час яна думае аб разводзе.
Хм.


А што з хлопчыкам?
З Дэвідам? З ім усё будзе добра.
Ён любіць футбол, відэагульні і гэтыя вульгарныя чэмпіянаты па рэслінгу, якія паказваюць са Штатаў.




Калі шчыра...
...то з чаго б яму нудзіцца па мне?


У любым выпадку, яны абодва ў **мінулым**, Чарльз. Цяпер яны сталі **гісторыяй**. Так сама, як Джон Фіцджэральд Кенэдзі і адзежа, якая ўжо не ў модзе.
MVL-UX26


Нас прыцягвае толькі **будучыня**.


САН-АНТОНІО, 7 ГАДОЎ НАЗАД:
Калі ласка, не рабіце гэта! Вы не **павінны** так паступаць!
Адпусціце мяне, і, клянуся богам, я сяду на першы жа аўтобус і ўеду з горада! Я нікому нічога **не скажу**!


Калі ласка! Я вас прашу! Мне толькі шаснаццаць гадоў! Мне толькі шаснаццаць...


Ну што? Ты гатовы?
Добра.


Ты быў маім галаўным болем, малы. І што б ты там ні казаў, гэта не зменіць нашага рашэння **пазбавіцца** ад цябе.


І ня трэба больш ілгаць нам аб тым, што ты - **не мутант** і гэтак далей. Бо Клетус бачыў на мінулым тыдні, як ты зрабіў **выбух** за яго домам.
Джым-Боб сказаў, што яны з жаной бачылі, як ты ўзрываў усё перад іх домам. І, чорт бяры, мы ўсе ведаем, якую ты прычыніў шкоду, калі падарваў маю аўтазапраўку!


На шчасце, пакуль ты нікога не забіў. Але што, калі ў наступны раз ты здагадаешся зрабіць выбух у краме? Ці ў царкве? Ці каля школы, у якой будуць знаходзіцца дзеці?
І ты лічыш, мы зможам жыць, маючы на сваім сумленні такія ахвяры і ведаючы, што маглі пакласці ўсяму гэтаму канец тут і цяпер?


Калі ласка, я запішуся ў лякарню!
Я прайду медыцынскае...


Не **турбуйся**, сынок.


Я **сам** акажу табе **медыцынскую дапамогу**!






Што гэта значыць?..


Не, у яго не выявіліся новыя здольнасці, аб якіх вы ня ведалі, містар Надольскі. Проста куля **ня выляцела** з ружжа.
Чарльз?


Зараз вы ўсе ўспомніце пра тое, як любіце сваіх жон і дзяцей і як мала часу праводзіце разам з імі.


Сыходзьце.


Не бойся, Рыкі. Мы не нашкодзім табе. Мы прыйшлі расказаць табе пра месца, дзе ты будзеш у бяспецы і сустрэніш падобных сабе.
Я... я сумняваюся, што вы ўяўляеце, наколькі сур'ёзныя ў мяне праблемы, сэр...


Я раблю выбухі вакол сябе па два-тры разы ў дзень.
І ня важна, дзе я і што раблю, я не магу сябе стрымаць! Як бы я ні хацеў, я не магу сябе кантраляваць!


Пакуль не можаш.




САН-ФРАНЦЫСКА, 6 ГАДОЎ НАЗАД:
Мілае мястэчка.


Вы набылі ўсё гэта на царкоўныя ахвяраванні?
Мы не **царква**, містар Эйнштэйн. Братэрства мутантаў хутчэй падобна на **школу**.
Сховішча, дзе мутанты-уцекачы моц выратавацца ад іх несвядомых пераследнікаў.
Каб вы ведалі, сэр, мы не просім і не прымаем ахвяраванняў. Усё, што вы тут бачыце, было створана на грошы, якія я ўспадкаваў ад свайго памерлага бацькі.


Так, я чуў, што ў вас добрыя сувязі, містар Леншэр. Кажуць, што ваша сям'я была вельмі ўплывовай.


Я не падтрымліваю сувезяў ні з кім з ацалелых членкаў маёй сямі. За выключэннем маіх дзяцей.
Таму я буду вельмі ўдзячны, калі вы не будзеце ўзгадваць іх у сваім **інтэрв'ю**.
Добра...
Гэта месца немагчыма назваць царквой, мы ня можам размаўляць пра грошы, і нам нават не дазваляецца ўзгадваць пра сям'ю Леншэраў.


Я не разумею, навошта вы наогул сюды заклікалі, рабяты. Журнал «Ролінг Стоунз» не піша пра ландшафны дызайн!
Мы паклікалі вас, каб распавесці пра нашыя **ідэі**, містар Эйнштэйн. Агучыць **Маніфест мутантаў** па пераўтварэнні свету.


У сценах гэтай школы ёсць дзеці, здольныя вырашыць энэргетычны крызіс, перапісаць законы фізікі і скончыць з сусветным голадам за **адно пакаленне**.
Мы прапаноўвалі свае паслугі дзяржаве і прамыслоўцам, але яны адмовіліся, бо баяліся хутка страціць свой статус-кво.


А цяпер яны быццам дамовіліся між сабой і робяць выгляд, быццам не заўважаюць нашага існавання, не пускаюць нас у этэр і не даюць выступаць у прэсе... Нягледзячы на тое, што нас становіцца ўсё больш з **кожным днём**.
Вы ведаеце, што створаная намі прылада для пошука мутантаў знайшла амаль **двесці** новых мутанатаў па **ўсяму свету**?


Мабыць, хопіць пужаць нас? Двесці падлеткаў з незвычайнымі здольнасцямі ўяўляюць сур'ёзную **пагрозу** для сусветнай **бяспецы**.
Мы не імкнемся да **панавання**. Мы хочам **навучыць** людзей, змяніць грамадства з дапамогай нашых **кніг** і **лекцый**.


Калі нават гэта і так, людзям будзе непрыемна думаць аб тым, што яны больш не з'яўляюцца вяршыняй эвалюцыі, прафесар Ксаўе.
FREAKS
GO AWAY!



ДЗІКАЯ ЗЯМЛЯ, 5 ГАДОЎ НАЗАД:


Мы далёка ад Аўстраліі, Эрык?
Паміж намі семьсот міль, Чарльз, і семь тысяч міль ад узбярэжжа ЗША.


Дастаткова вялікая адлегласць. Цяпер яны ня будуць біць нашыя вокны і падпальваць пярэдні пакой...
Але ў глыбіні душы мне па-ранейшаму **сорамна** з-за таго, што мы **ўцяклі**.


Мы не ўцеклі, Чарльз. Проста мы апярэджваем падзеі і будуем дом для абсалютна новага пакалення.
Да канца года тут будуць жыць **пяць тысяч** такіх жа, як мы. А праз **дзесяць** гадоў мы павялічым іх колькасць у **дзясяткі** разоў.


Лічыш, яны не **знойдуць** нас?
Я зраблю нас незаўважнымі для **радараў**. Я ствару трох-вымяральныя галаграмы, якія схаваюць нас.


Відавочна, што мы стаім на месцы, дзе будзе знаходзіцца будынак **парламента** для нашай новай расы, мой сябар.
Там мы пабудуем оперны тэатр. А там будзе знаходзіцца ўніверсітэт мастацтва і навук. За дрэвамі мы пабудуем першыя дамы, якія будуць працаваць на сонечнай энэргіі.


Праз дзесяць гадоў урады ўсіх краін будуць атрымліваць загады з гэтай маленькай выспы.
А праз дваццаць гадоў - усе людзі пачнуць размаўляць на новай **мове мутантаў**, якую мы створым.


Зразумела, **дабраахвотна**.


О, канешне, **Чарльз**.
**Безумоўна**.


4 ГАДЫ НАЗАД:
Хм. Вы хацелі бачыць мяне, містар Леншэр?
Магнета, **Дэтанатар**. Я хачу, каб цяпер, пасля таго, як мы канчаткова пазбавіліся ад нашага нікчэмнага чалавечага **паходжання**, ты называў мяне **Магнета**.
Сапраўды? Шчыра кажучы, я адчуваю сябе глупа, калі кажу слова «Магнета», сэр. Так сама, як і «Дэтанатар». Часам мне хочацца, каб мяне зноў называлі **Рыкі Гібсанам**.
Нельга так казаць.


Бо Рыкі Гібсан паважаў свайго бацьку і сваіх продкаў, якія былі людзьмі. Дэтанатар жа павінен адчуваць гонар толькі за свой **благаслаўлёны дарунак**, з якім ён быў народжаны.
Спадзяюся, ты не станеш шкадаваць аб тым, што прыняў новае вадохрышча як прадстаўнік пасля-чалавечай расы?


Не, сэр, ніскolькі.
Добра, бо ў мяне ёсць планы адносна цябе. **Вялікія** планы. А цяпер скажы мне... як астатнія адрэагавалі на маю **папераджальную прапанову**?


Ну, я бы сказаў, што дзесяць да аднаго ў вашу карысць, сэр. **Прафесар Ікс** дагэтуль мае вялікі ўплыў на тэлепатаў. Але нават яны пачынаюць злавацца на тое, што іх трымаюць тут за дзвярмі.


Думаю, яны ўсе ўбачылі, як хутка мы пабудавалі **рай** вакол сябе, і не разумееюць, чаму мы не можам таксама расчысціць **свет** за межамі выспы.
Я адчуваю тое ж самае. Чарльз заўсёды хацеў ператварыць гэтае месца ў храм навукі... універсітэт... дзе людзі будучыні маглі б **удасканальвацца**...


...у той час, як я ствараў **армію**.



**ПРАЗ ПЯЦЬ МЕСЯЦАЎ:**

Я лічу, што гэта **глупа**.

Калі шчыра, то мяне мала цікавіць тваё **меркаванне**. Адзінае, што мяне зараз хвалюе - як мне адкараскацца ад тваёй надакучлівай **тэлепатыі**.

Лічыш, гэта справядліва, што я ня ведаю ні воднай тваёй думкі ў той час, як ты маеш вольны дотык да ўсяго, аб чым я мяркую?

Я **ніколі** не чытаў твае думкі, Эрык. Мы ж **сябры**!

Сябры не выкарыстоўваюць сваю сілу, каб прыцягнуць **галасы** на свой бок. Сябры не арганізуюць тэлепатычных сустрэч з гэтымі **генетычнымі вырадкамі**.


Што?
Ты лічыш, я ня ведаю, што ты таемна ад мяне перапісваешся з **амерыканцамі** і **брытанцамі**?
Твае сябры-тэлепаты ўмеюць трымаць язык за зубамі. Але рабяты з радыёстанцыі змаглі вылічыць даволі цікавы **адваротны сігнал**.


Як ты асмеліўся гаварыць пра маю **амаральнасць**, высакамоўны слабак! Амаральныя людзі хаваюцца ў кустах і глядзяць, як чалавецтва знішчае ўсё навокал, у тым ліку саміх сябе!
Амаральныя людзі аддаюць перавагу таму, каб нічога не рабіць, калі ў іх руках ёсць сіла, здольная ўсё **ўдасканаліць**!


Лічыш, я не заўважыў, што ты перастаў ужываць маё імя ў інтрэв'ю, хоць менавіта я быў заснавальнікам гэтага **прадпрыемства**!


Ты становішся **параноікам**, Эрык.


**Пабачым.**



ТРЫ ГАДЫ НАЗАД:


Бацька! Што здарылася?
Гэта **Ксаўе** і яго банда міратворцаў! А вы што думалі? Яны напалі на мяне, а потым пабеглі да пляжа, дзе іх чакаюць астатнія!




Як яны адважыліся падняць на цябе руку, бацька? Я зламаю ім шыі перш, чым яны зробяць яшчэ адзін крок!
Не, Пьетро, няхай уходзяць! Калі ў іх няма мужнасці ўзяць тое, што прыналежыць ім **па праве**, няхай правальваюць!


Няўжо ты дазволіш ім **уйсці**?
Не. **Нічога такога**. Я бы з задавальненнем пазбавіўся ад іх, але яны павінны стаць жывым нагадваннем аб тым, што адбываецца, калі ідзеш супраць **эвалюцыі**, Ванда.




Скажам так, я дам Чарльзу магчымасць вярнуцца і выказаць словы прабачэння!

CHARLES! LOOK OUT!!











ПЕНТАГОН, ПРАЗ ТРЫ ТЫДНІ:

Рукі да гары. Вырадак! Гэта забароненая тэрыторыя! Калі ў цябе ёсць зброя, аддай яе нам!

Не. Які сэнс выкарыстоўваць нож ці пісталет супраць цэлай арміі толькі для таго, каб абвясціць пра сябе?

Я сам і ёсць **зброя**, прытыркі.


Як вы лічыце, Магнета? На вашу думку, гэта добрае месца для **штаба Братэрства мутантаў**?
Калі шчыра, я яшчэ не вырашыў, **Шаблязубы**. Гэта месца лепш, чым пуст пустэльня. І тут зручней, чым у космасе.
Таксама тут шмат **жалезнай руды**, якая знаходзіцца ў кіламетры пад намі. Яна спатрэбіцца для будаўніцтва.


Але зараз мне трэба даследваць атмасферу... праверыць магнітныя палі і паглядзець, ці **карысны** яны для нас ці не.
Гэта не **глупае маленькае сховішча**, тыпу **Школы Ксаўе**. Тут будзе знаходзіцца наш будучы **Парламент**, адкуль мы станем кіраваць **цэлай расай**.


Жаба баяўся, што вы **змяніліся** за тыя **шэсць месяцаў**, пакуль Ксаўе кантраляваў вашыя думкі. Ён лічыў, што пасля таго,як вашу памяць разблакіруюць, вы згубіце той агонь, які бушаваў унутры вас.
Ён дарэмна **турбаваўся**.


Гэтыя шэсць месяцаў, калі мне **прамывалі мазгі**, калі я жыў пад адным дахам з ідыётамі і трываў усіх гэтых бандытаў з Белага дома, толькі **ўзмацнілі** маю **рашучасць**.


Немагчыма перадаць **словамі** тое, што чакае чалавецтва ў **будучым**!
STARTING NEXT ISSUE:
RETURN OF THE KING

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпісчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпісчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.